ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 360 Год выд. XXXVIII | Ліпень 1989

## УСТАНОЎНЫ ЗЬЕЗД БНФ

**Вільня, 24-25.VI.1989**

Сустрэўшы перашкоды з боку гарадзкіх уладаў Менску, арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту (БНФ) правёў свой установчы зьезд у суседняй Вільні, дзякуючы прыхільнасьці такога-ж літоўскага руху за перабудову, які ў сваёй рэспубліцы карыстаецца большай прыхільнасьцяй рэспубліканскіх уладаў, чымся БНФ у Вандэі-БССР.

На зьезд у Вільню прыбыло больш за 400 дэлегатаў, было шмат гасьцей, прадстаўнікі рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных сродкаў масавай інфармацыі. Паводля ўласнага карэспандэнта Беларускае сэкцыі радыё «Свабода», на зьезьдзе было акрэдытавана 85 журналістаў.

Зьезд пачаў сваю працу апаўдні 24 чэрвеня ў віленскім Палацы прафсаюзаў. З праграмным дакладам выступіў сябра аргкамітэту БНФ Зянон Пазьняк.

Ніжэй падаём вытрымкі зь ягонае прамовы.




Шаноўныя дэлегаты, сябры, дамы і панове!

Рух Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» сёньня зьяўляецца грамадзкай і палітычнай рэальнасьцю. У руху ўдзельнічаюць тысячы людзей, грамадзянаў Рэспублікі. Ігнараваць гэты рух ужо нельга, як-бы ні стаpалася ў гэтым цяперашняе кіраўніцтва БССР, дзейнасьць якога заснаваная на нацыянальным нігілізьме, на няпрыняцьці нацыянальнай культуры, адрачэньні ад народных каштоўнасьцяў.

Дзе гэта бачана, каб кіраўнік кампартыі рэспублікі ня ўмеў гаварыць на роднай мове, не клапаціўся пра ейны лёс?! Дзе гэта бачана, каб сакратар абкаму публічна заяўляў, што ён не разьбіраецца «в национальных вопросах»? Дзе гэта бачана, каб тапталі нацыянальную гісторыю, каб зьневажалі сымбалі Бацькаўшчыны, каб на дэградацыю, выміраньне штурхалі народ?!

Сталінізм распраўляўся ня толькі зь сялянствам і інтэлігенцыяй, пры ім была растаптаная гістарычная памяць народу, разбураныя сьвятыні, апляваныя дзеяньні мінуўшчыны, зьняважаныя аўтарытэты.

У 1933 годзе ў прымусовым парадку з палітычнымі мэтамі была праведзеная рэформа беларускага правапісу, насаджаўся русіфікаваны жаргон. Страшна тое, што за часы сталінскага генацыду Беларусь страціла звыш двух мільёнаў сваіх жыхароў. Але яшчэ больш страшна тое, што за гады масавых вынішчэньняў, за гады прыгнёту адбылася дэфармацыя грамадзянскай псыхалёгіі, стварыўся бюракратычны тып нацыянальнага нігіліста, усталявалася антынародная сыстэма ўлады, якая штурхала народ да нацыянальнага самагубства.

На месца расстраляных у Беларусь прысылаліся кіраўчыя кадры з РСФСР. І першае, чым яны пачалі займацца, гэта — зачыняць беларускія школы. Гэтая палітыка выхавала кіраўнікоў-рэнэгатаў, нацыянальных нігілістаў і апаратных функцыянераў, быццам годнасьцю якіх сталі няпрыняцьце мовы і зьнявага Бацькаўшчыны.

Да 1989 году ў беларускіх гарадох, дзе большасьць насельніцтва (71 працэнт) — Беларусы, не засталося ніводнай беларускай школы. Наша мова зусім выгнаная зь дзяржаўнага ўжытку і справаводзтва. Абнізілася бытавая культура і мараль, распадаюцца гуманістычныя народныя традыцыі, зьнішчаюцца прырода, краявіды зямлі, разбураецца чалавечая асоба.

За чатыры гады перабудовы шмат што зьмянілася ў суседніх рэспубліках, але мала што на Беларусі. У кіраўніцтве БССР і ў Маскве прызвычаіліся глядзець на Рэспубліку як на нарыхтоўчую кантору. Нарыхтоўваюць нават там, дзе радыяцыя сто кюры на квадратны кілямэтар, дзе ніхто не павінен жыць і ніхто ня жыве, акрамя Беларусаў. Гады трагедыі, гады таямніц і гады хлусьні! Палова тэрыторыі Рэспублікі ў радыяцыйнай небясьпецы. Трайны генацыд вісіць над нашай зямлёй — сталінскі, культурны і радыяктыўны. І калі-б у такіх абставінах усе маўчалі, гэта быў-бы знак, што мы гінем, зьнікаем з карты сьвету. Але мы жывём. І штуршком да адраджэньня і стварэньня Народнага Фронту стала перш за ўсё веданьне пра генацыд.

Тут Зянон Пазьняк нагадаў пра важнейшыя падзеі апошняга году: масавы мітынг у Курапацкім лесе 19 чэрвеня 1988 году; установчы сход у Менску Таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі» 19 кастрычніка летась, калі быў створаны таксама й аргкамітэт БНФ «Адраджэньне»; разгром маніфэстацыі ў Менску ля Ўсходніх могілак 30 кастрычніка; маса-

(Працяг на 2-й б.)

## БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА ПАЛІТЫЧНАЙ АРЭНЕ

**Удзел у парляманцкіх выбарах**

**Ад Рэдакцыі:** *Ніжэй зьмяшчаем карэспандэнцыю зь Беласточчыны. На жаданьне аўтара прозьвішча ягонае застаецца ведамым толькі Рэдакцыі.*

Эканамічная катастрофа, у якой знаходзіцца цяпер Польшча, прымусіла камуністычны ўрад шукаць драматычна нейкага выхаду. Адзіны ратунак для запазычанай бязмежна дзяржавы — гэта дапамога ад высока разьвітых краін Захаду. Але каб такую дапамогу дастаць, трэба раней правесьці палітычныя зьмены ў кірунку дэмакратыі. У сувязі з гэтым у красавіку сёлета было падпісанае пагадненьне паміж урадам і апазыцыяй — галоўным чынам «Салідарнасьцю» — згодна зь якім у чэрвені былі праведзеныя часткова свабодныя выбары ў дзьве палаты польскага парляманту: Сойм і Сэнат. Урадавая кааліцыя гарантавала сабе 65% месцаў у Сойме, а рэшту месцаў у Сойме ды ўсе месцы ў Сэнаце пакінула для вольных выбараў.

Згодна з выбарчым парадкам, кандыдатам мог стацца кожны, хто сабраў у сваё падтрыманьне мінімум тры тысячы подпісаў выбаршчыкаў. Зразумела, што галоўнымі сіламі ў выбарах былі з аднаго боку камуністычная кааліцыя, а з другога «Салідарнасьць», але быў таксама дадзены шанц і кандыдатам «незалежным».

Беларусы не прамахнулі свайго шанцу. Кандыдатаў было двух. Паставіў іх Беларускі Клюб — палітычная гру-

(Працяг на 3-й б.)

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ




*Беларускія сьцягі ў Нью-Ёрку ля катэдры Сьв. Патрыка*

Як і папярэднімі 30 гадамі, сёлета ў ліпені ў Злучаных Штатах быў адзначаны Тыдзень Паняволеных Народаў. У праклямацыі Прэзыдэнта Джорджа Буша, абвешчанай 6 ліпеня, сказана, што хоць у некаторых краёх Усходняе Эўропы відаць «праменьне сьвятла», у іншых частках гэтага рэгіёну «жорсткія рэпрэсіі трываюць далей, вядзецца перасьлед этнічных і рэлігійных меншыняў».

Прэзыдэнт Буш прыгадаў «з глыбокім смуткам» пакт Рыбэнтропа-Молатава, які «асудзіў Польшчу, Эстонію, Латвію і Літву на падзел ды чужую дамінацыю». У праклямацыі сказана, што ЗША адмаўляюцца прызнаць інкарпарацыю прыбалтыцкіх дзяржаваў у Савецкі Саюз.

Прэзыдэнт Буш таксама сказаў у праклямацыі, што імкненьні народаў забясьпечыць сабе людзкія й грамадзянскія правы набываюць розгаласу па цэлым сьвеце і шмат дзе дасягаюць канкрэтных пазытыўных вынікаў.

У Нью-Ёрку першая ўрачыстасьць адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў адбылася ў нядзелю 9 ліпеня. У парадзе нацыянальных групаў, што адбыўся па Пятай авэню, узяла ўдзел і беларуская група. Зь беларускіх арганізацыяў былі прадстаўленыя Беларуска-Амэрыканскае Задзіначаньне, Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

Пасьля параду сьцягоў і багаслужбы ў катэдры Сьв. Патрыка дэманстранты, у тым ліку вялікая калёна амэрыканскіх Кітайцаў, прайшлі па Пятай авэню да Цэнтральнага Парку, дзе адбыліся два мітынгі: адзін кітайскі ў сувязі з разгромам у Пэкіне студэнцкага руху за дэмакратыю, а другі ўсходнеэўрапейскіх групаў, дзе адным з прамоўцаў быў Рональд Лёдэр, рэспубліканскі кандыдат на мэра гораду Нью-Ёрку.

Ад імя ўсіх удзельнікаў мітынгу, у тым ліку й ад Беларусаў, прамаўляў сп. Горст Уліх, Амэрыканец нямецкага паходжаньня, які займае становішча старшыні ньюёркскага Камітэту Паняволеных Народаў.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УСТАНОЎНЫ ЗЬЕЗД БНФ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

вы мітынг на стадыёне «Дынама» 19 лютага сёлета; сёлетнія выбары ў сакавіку, у якіх прайшлі ўсе кандыдаты, падтрымваныя Фронтам; першамайскую дэманстрацыю, у якой асобная калёна БНФ мела канфрантацыю зь менскай міліцыяй. Далей у сваёй прамове Пазьняк сказаў:

Асноўныя мэты й задачы Фронту засьветчаныя намі ня раз: мы за такую дзяржаву, у якой свабодны народ адчуваў-бы сябе гаспадаром сваёй зямлі і ўласнага лёсу. Мы за такое грамадзтва, у якім не марнуецца чалавечая праца, ня нішчыцца народная зямлі, культура і мова, дзе свабода сумленьня, дзе дзеці шануюць бацькоў, а маткі любяць сваіх дзяцей і дзе грамадзтва, якое гарантуе будучыню сваім грамадзянам. (...)

Мы за свабоду нацыяў і народаў, за забесьпячэньне прадстаўніком усіх нацыяў права на захаваньне сваёй мовы і культуры, права на сацыяльную справядлівасьць і аўтаномію асобы.

Надыходзяць часы, калі можа вырашыцца лёс Беларусі

У дакладзе аб фінансах БНФ Алесь Бяляк сказаў, што на 22 чэрвеня 1989 г. аргкамітэтам БНФ было выдаткавана 43.740 рублёў, галоўна на выданьне 7-х нумароў «Навінаў» і трох нумароў «Экспрэс-хронікі» (агульным тыражом 200 тысячаў экз.). На рахунку БНФ было 910 рублёў, але да дня зьезду народ ахвяраваў ізноў 13.802 рублі.

З прамовамі на зьезьдзе выступілі мовавед Пятро Садоўскі (пра беларускую мову ў БССР), лекар Тамара Белавокая і псыхіятр Сяргей Ядзерскі, гісторык Міхась Ткачоў з Горадні (пра нацыянальную сымболіку; дэлегаты на зьезд прыбылі зь бела-чырвона-белымі сьцягамі й Пагонямі); народныя дэпутаты Аляксандар Жураўлёў і Станіслаў Шушкевіч (пра шляхі кансалідацыі і кампраміс з уладамі БССР);

Пасьля дыскутавалася пытаньне, ці прыймаць абразы-падарункі ад студэнта Менскага тэатральна-мастацкага інстытуту Аляксандра Пушкіна («Полацкая Мадонна», «Зь мінулага», «Памяці 1863-га году» і «Алегорыя змаганьня зімы зь вясной — 25-га Сакавіка»). Пытаньне ўзьнікла таму, што мастак ужо колькі разоў кампрамітаваў дэмакратычны рух. Зянон Пазьняк выказаўся за тое, каб прыняць падарункі — маляў, Народны Фронт адмежаваўся ад экстрэмісцкіх заклікаў Пушкіна, а малюнкі той дарue шчыра.

Далікатную тэму закрануў у сваім выступленьні доктар фізыка-матэматычных навук Юры Хадыка, які выказаўся за аднаўленьне грэка-каталіцкае царквы ў Беларусі ды за тое, каб дамагацца дазволу рэлігійнай дзейнасьці ў бальніцах і турмах.

Праблему рэлігіі і абнаўленьня грамадзтва ўзьняў і а. Ян Матусэвіч, сьвятар касьцёлу вёскі Баруны Ашмянскага раёну. Айцец Матусэвіч выступаў ад імя нешматлікіх сьвятароў Беларусі, якія моляцца Богу ў сваёй матчынай мове й працуюць на ніве нацыянальнага адраджэньня. Прамоўца гаварыў пра цяжкія мінулыя часы. «Сумна тое, — сказаў ён, — што й сёньня пры зьмененых палітычных абставінах Каталіцкая Царква ў Беларусі зьяўляецца маленькай нацыянальна чужой рэлігійнай установай, якая ня мае ніякага значэньня ў беларускім нацыянальным жыцьці. (...) Каталіцкая Царква ў Беларусі стаіць на раздарожжы: або зачыніцца ў гэтай невялічкай нацыянальнай меншасьці, бяз шанцу на будучыню, або, прыпомніўшы загад Збавіцеля «Ідзеце і навучайце ўсе народы», павярнуцца тварам да насельніцтва краіны, спрагнёнага духоўнае стравы».

На вечаровым паседжаньні 24-га чэрвеня выступіў лідэр беларускае суполкі «Сьвітанак» у Рызе Сяргей Кузьняцоў і прапанаваў, каб у праграму БНФ было запісана, што Беларусь дамагаецца статусу незалежнай нацыянальнай дзяржавы.

Пра антытаталітарны характар і мэты беларускага нацыянальнага руху гаварыў доктар эканамічных навук Барыс Ракіцкі. «Сьляпыя тыя, хто думае, што ўлада — гэта сіла, — сказаў прамоўца. Не, улада тады ўлада, калі яе падтрымлівае народ. Пасьля-ж 30-га кастрычніка [1988 г.] (разгон масавае дэманстрацыі ў Менску — рэд. «Б-са») народ перастаў давяраць уладам і вымушаны ставіць пытаньне аб сваім уладараньні. Гэта — пачатак двуўладзьдзя».

Супрацоўнік часапісу «Крыніца» Анатоль Сідарэвіч у сваёй прамове зрабіў экскурс у гісторыю нацыянальна-палітычнага адраджэньня Беларусі, прасачыў працэс заняпаду сувэрэнасьці БССР пад Сталінам. «Калі запалохалі народ і выхавалі цэлае пакаленьне 'манкуртаў', — сказаў Сідарэвіч, — тады можна было даверыць і Беларусам кіраўніцтва. Калі-ж першы сакратар у некаторых рэспубліках — абарыген, дык другі — абавязкова прышлы. Органы ўнутраных справаў і дзяржаўнай бясьпекі былі выведзеныя ня толькі з кампэтэнцыі саюзных рэспублік, але й савецкай улады наогул. Сувэрэнітэт у абодвух сваіх аспэктах — і сувэрэнітэт нацыі, і сувэрэнітэт народу — стаў прэрэгатывай партапарату».

Рабочы Сяргей Антончык гаварыў у сваёй прамове аб падтрымцы БН Фронту пралетарыятам.

Пісьменьнік Сямён Букчын выказаў думку, што крызіс на Беларусі ў тым, што кіраўніцтва рэспублікі ўспрыймае перабудову не як карэнную зьмену, а як чарговую прапагандысцкую кампанію. Пацьверджаньне гэтаму — даклад на пленуме ў Менску 22 чэрвеня сёлета першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова, якому зьяўленьне на палітычнай арэне БНФ бачыцца жахлівым.

Кандыдат біялягічных навук Лявон Тарасенка гаварыў аб тым, што яднае народы Беларусі й суседняй Літвы, аб агульнай шматсотгадовай гісторыі ды аб патрэбе супрацоўніцтва БНФ зь літоўскім рухам за перабудову «Саюдзіс».

Увечары 24-га ў віленскім касьцеле сьв. Мікалая адбылося набажэнства ў беларускай мове ў гонар устаноўчага зьезду БНФ. Сябры аргкамітэту БНФ далі ў залі паседжаньняў прэсканфэрэнцыю.

Уначы з 24-га на 25-га абмяркоўвауся статут БНФ. Пасьля даўгіх спрэчак было пастаноўлена пакінуць статут у першапачатковым варыяньне.

Назаўтра ў падобнай сьпешцы абмяркоўваліся праект праграмы БНФ і праект закону аб выбарах у Вярхоўны Савет БССР. Праца засталася незакончанай. Быў прыняты за аснову праект праграмы БНФ. Праект закону аб дзяржаўнасьці беларускай мовы быў пакінуты ў ягоным недасканальным выглядзе з тым, што будзе дапрацаваны й вынесены на ўсенароднае абмеркаваньне.

На другі дзень зьезду адбыліся выбары ў сойм БНФ, рэвізійную камісію, а таксама выбары старшыні й двух намесьнікаў. У сойм былі абраныя 55 асобаў, зь іх 53, якія ўваходзілі ў аргкамітэт БНФ.

За старшыню сойму БНФ выбралі археоляга й публіцыста Зянона Пазьняка, а за намесьнікаў ягоных — доктара гістарычных навук (кіраўніка гарадзенскае «Паходні») Міхася Ткачова і доктара фізыка-матэматычных навук Юр'я Хадыку.

Былі прынятыя рэзалюцыі й звароты:

1. Зварот да народаў СССР і краінчленаў ААН.
2. Зварот БНФ «Адраджэньне» да грамадзянаў Беларусі.
3. Зварот на Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў БССР.
4. Ухвала ўстаноўчага зьезду БНФ «Адраджэньне» пра ўзаемадачыненьні паміж народнымі рухамі іншых рэспублік.
5. Ухвала БНФ «Адраджэньне» пра беларуска-літоўскія дачыненьні.
6. Ухвала пра міжнацыянальныя адносіны на Беларусі.
7. Рэзалюцыя ўстаноўчага зьезду БНФ «Адраджэньне» аб палітычным плюралізьме.
8. Рэзалюцыя аб свабодзе сумленьня і беларусізацыі рэлігійнага жыцьця на Беларусі.
9. Рэзалюцыя аб дзяржаўнасьці беларускай мовы.
10. Рэзалюцыя аб беларускай нацыянальнай сымболіцы.

Гэтыя дакумэнты будуць апублікаваныя ў наступным нумары «Беларуса».

Устаноўны зьезд БНФ скончыў сваю працу позна ўвечары 25-га. Заключнае слова сказаў старшыня сойму Зянон Пазьняк. Ён падкрэсьліў, што дэлегатаў на зьезд вылучыў народ і што БНФ адчувае за сьпіной давер і мандаты гэтага народу. «Мы ня можам дазволіць пагардлівых адносінаў да нас з боку чынавенства, — сказаў Пазьняк. — Хай-жа будзе гэта маральнай засьцярогай, упэўненасьцю для ўсіх нас. Наш рух павінен набыць новую духовую сілу. Я думаю, што задачы, якія стаяць перад намі, мы выканаем». На што заля адказала працяглымі апладысмэнтамі.

На дарогу дэлегатам зьезду а. Эрнэст Сабіна, які адпраўляе набажэнствы пабеларуску ў Асіповіцкім раёне, сказаў малітву-блаславеньне абранаму сойму. «Усякая ўлада — ад Бога, — гучэлі словы малітвы, — а тым болей улада, блаславёная Богам. Ня бойцеся чалавекаў, блаславёных Богам».

БНФ пляную выдаць матар'ялы зьезду бязь ніякіх купюраў, каб людзі маглі разабрацца, дзе праўда, а дзе хлусьня афіцыйнае прапаганды.

Газэты БССР у пераважнай бальшыні апублікавалі куртатыя й тэндэнцыйныя паведамленьні пра зьезд БНФ. Аб'ектыўная інфармацыя зьявілася ў тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва» (30.VI).

# ШТО ДУМАЮЦЬ МЯНЧАНЕ ПРА БНФ

Напярэдадні ўстаноўнага зьезду Беларускага Народнага Фронту, каб высьветліць стаўленьне жыхароў Беларусі да ідэі стварэньня БНФ, незалежны цэнтар вывучэньня грамадзкае думкі ў Менску правёў апытаньне дзьвюх тысячаў мянчанаў (зь іх 37% рабочыя, 53% інтэлігенцыя й службоўцы, 7% студэнты, 3% вайскоўцы; 45% апытаных члены партыі або камсамолу; нацыянальны склад апытаных: 66% Беларусы, 21 — Расейцы, 13% — іншыя нацыянальнасьці).

Вось вынікі апытаньня: тры чверці апытаных паставіліся станоўча да БНФ, 17% ня вызначылі свае пазыцыі, і толькі 7% выказаліся адмоўна.

Апытаныя асудзілі сёньняшняе адмоўнае стаўленьне мясцовых уладаў да БНФ (72%), да «Мартыралёгу Беларусі» (47%), да нефармалаў (55%), да нацыянальнай сымболікі (48%).

Што да прызнаваных Беларускаму Фронту магчымасьцяў, дык 79% апытаных уважаюць, што БНФ здольны паспрыяць разьвіцьцю нацыянальнай культуры, 81% — разьвіцьцю беларускай мовы, 68% — разьвіцьцю публічнасьці (галоснасьці), 57% — ахове прыроды, 53% — змаганьню зь бюракратыяй, 40% — палепшаньню міжнацыянальных дачыненьняў.

Апытаньне выявіла і сумляваньні што да некаторых іншых магчымасьцяў БНФ. Толькі 38% апытаных мяркуюць, што БНФ можа паспрыяць рэформе палітычнай сыстэмы, 33% — прававолй рэформе, 27% — разьвязаньню сацыяльных праблемаў, 26% — разьвязаньню эканамічных праблемаў.

Трэба памятаць, аднак, што пра БНФ людзі мяркуюць ня гэтулькі на аснове азнаямленьня з праграмай Фронту ды іншымі дакумэнтамі, колькі на аснове пераважна адмоўнае пісаніны пра БНФ у афіцыйным друку.

БНФ выдае свой інфармацыйны бюлетэнь «НАВІНЫ», якога выйшла сем нумароў, але ўлады робяць усё магчымае, каб не дапушчаць да пашырэньня гэтае публікацыі.

# УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЯ Ў МЕНСКУ

## Мітынг жалобы

У папярэднім нумары «Беларуса» было пададзена пра «мітынг маўчаньня» ў Менску. Дадатковую інфармацыю пра гэтую падзею зьмясьціў Ігар Міхно ў латыскай газэце «Атмода» (5.VI). Міхно піша:

«26 красавіка сёлета а 19.00 гадз. на плошчы імя Леніна г. Менску перад Домам ураду сабралася каля 20 тысячаў асобаў на маўклівы мітынг-рэквіем 'Гадзіна жалобы', прысьвечаны страшной даце — выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Над людзьмі, што зыйшліся, вецер разьдзьмухваў чорныя жалобныя сьцягі, штандары з назовамі гарадоў, што знаходзіліся на заражанай тэрыторыі, біў памінальны звон, галовы людзей былі абвязаныя чорнымі істужкамі, у руках гарэлі сьвечкі, плавячыся ды заліваючы парафінам зямлю».

# БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА ПАЛІТЫЧНАЙ АРЭНЕ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

поўка, паўсталая на Беласточчыне ў лютым сёлета, як першапачатак незалежнай партыі.

Кандыдатам у Сойм быў гісторык і журналіст, цяпер настаўнік сярэдняй школы ў Супрасьлі Яўген Мірановіч, кандыдатам у Сэнат — вядомы пісьменьнік і публіцыст Сакрат Яновіч. Іх кандыдатуры былі падтрыманыя Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў (БАС) і Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам (БГКТ). Створаны быў выбарчы штаб, якім кіраваў Віктар Стахвюк.

Вялікіх спадзяваньняў ня было ад пачатку. У маштабе ўсяго Беластоцкага ваяводзтва Беларусы складаюць меншасьць. Можна было спадзявацца, што ў адной з выбарчых акругаў Беларусы акажуцца большасьцю. Але так ня сталася. Урадавая камісія падзяліла ваяводзтва так, каб у ніводнай зь дзьвюх акругаў, на якія было падзеленае ваяводзтва, Беларусы ня мелі бальшыні. Былі й іншыя перашкоды.

Беларускі Клюб ішоў на выбары адзін. Спадзяваньні некаторых беларускіх дзеячоў на нейкую канцэсію з боку камуністаў аказаліся пустымі. Улады яшчэ раз давялі, што іхная палітыка ў дачыненьні да Беларусаў — гэта палітыка ігнараваньня. Нельга было таксама спадзявацца і на «Салідарнасьць», якая — асабліва на Беласточчыне — моцна прасякнутая нацыяналізмам і фанатычна каталіцкім духам.

За партыяй стаялі: грошы, тэхнічная база і добра зарганізаваны апарат людзей. За «Салідарнасьцю» — магутны Каталіцкі касьцёл, міф антыкамуністычнай апазыцыі і таксама грошы. За Беларусамі — жменька адданых людзей, родная мова і... абсалютная нястача сродкаў. Да таго-ж Праваслаўная царква, якая карыстаецца традыцыйна даволі вялікім аўтарытэтам, адмовілася даць абяцаную раней падтрымку, затое выставіла свайго контркандыдата ў Сойм — доктара Багдана Мартынюка, жыхара Варшавы, ураджэнца Валыні і сябру праўленьня Украінскага (!) Грамадзка-Культурнага Таварыства.

давалі сваіх уласных аўтаў, агітацыя праводзілася ў самых далёкіх вёсках. На мурох гарадоў і сялянскіх платох расьцьвілі бел-чырвона-белыя афішы. Праграма «нашых кандыдатаў» была распаўсюджваная ў беларускай мове. Мова была выбарчым знакам, была важнейшай за самую праграму.

Сама кампанія праводзілася адносна свабодна, бяз больших перашкодаў з боку ўладаў ці «Салідарнасьці». Атака прыйшла затое з найменш спадзяванага боку — Праваслаўнай царквы. Некаторыя сьвятары адкрыта казалі людзям не галасаваць за Яновіча і Міраповіча, бо яны «агенты Салідарнасьці»; паўсюдна амаль выбарчыя плякаты Мартынюка і іншых кандыдатаў Царквы былі наклееныя на беларускія плякаты. Нацыянальнасьць Мартынюка скрывалася перад людзьмі — яго прадстаўлялі як «праваслаўнага». Да таго-ж Мітрапаліт Варшаўскі Васіль, незалежна ад ведзенай у Беластоку епіскапам Савам кампаніі, выдаў адозву, у якой заклікаў вернікаў галасаваць за камуністычную (!) кааліцыю. Усё гэта вельмі аслабіла і так сьціплыя сілы Беларусаў.

Пра выпікі выбараў меркаваць нялёгка. Калі глядзець толькі на сухія статыстычныя даныя, дык бязумоўна Беларусы прайгралі: Я. Міраповіч здабыў крыху больш за 10% галасоў, С. Яновіч — 8%. Выйграла «Салідарнасьць», здабыўшы амаль 60% галасоў.

Прычыны беларускай няўдачы — гэта недахоп людзей і грошай, часу і дасьветчаньня; гэта нізкая нацыянальная і палітычная сьвядомасьць беларускага насельніцтва (амаль палова выбаршчыкаў не пайшла галасаваць зусім, 45000 галасоў было пададзеных няправільна і прызнаных няважнымі); гэта таксама разьбітыя сілы (Міраповіч і Мартынюк разам атрымалі амаль 20% галасоў); ну, і нарэшце, гэта асабліва моцнае становішча «Салідарнасьці», якой *ніхто* ня быў у сіле супрацьставіцца.




*Перадвыбарчыя плякаты на плоце.*

Хоць вялікіх спадзяваньняў у Беларусаў ня было, але была затое сьвядомасьць, што нарэшце пра «нашы справы будзем гаварыць самі», ужываючы тут лёзунгу зь бел-чырвона-белага выбарчага плякату. Сьціплы фонд выбарчага камітэту складаўся з ахвяраў выбаршчыкаў, сродкаў самых кандыдатаў ды падтрымкі ад студэнтаў (БАС). За гэтыя сродкі былі надрукаваныя два выбарчыя плякаты і больш за дваццаць тысяч агітацыйных лістовак. Рабіць прапаганду дапамагала «Ніва» і беларуская праграма беластоцкага радыё.

Дзякуючы людзям, якія не пашка-

Але была й карысьць з выбараў — гэта, перш-наперш, сам факт праявы на палітычнай арэне грамадзянскай сьпеласьці Беларусаў. Пэрспэктывы на будучыню не такія ўжо й дрэнныя: дваццаць дзьве з паловай тысячы людзей, якія аддалі свой голас за беларускага сэнатара — гэта сьвядомыя нацыянальна і палітычна Беларусы. Як пісаў наш вялікі паэт Янка Купала: «Не загіне край забраны, пакі будуць людзі».

Сёлета ўвосень, праўдападобна, будуць выбары ў мясцовыя рады. Беларускі Клюб пойдзе на выбары з большым дазнаньнем. У часе аднаго зь мітынгаў Сакрат Яновіч сказаў: «Адступаць няма куды, за намі — толькі Беларусь».

## АДЗНАЧЭНЬНЕ ЎГОДКАЎ БНР У МЕНСКУ

Латыская расейскамоўная газэта «Атмода» (5.VI.89) зьмясьціла «Беларускую хроніку» Ігара Міхна. Міхно піша:

«25 сакавіка сёлета а 14.00 гадз. Беларускі Народны Фронт (БНФ) наважыў правесьці ў г. Менску апошні перад Днём выбараў мітынг — 'Наказы дэпутатам'. У гэты дзень 71 год таму была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Да 25 сакавіка грунтоўна рыхтавалася і партыйнае кіраўніцтва гораду. Па прадпрыемствах былі сабраныя каля 400 'дружыньнікаў', якія далі інструкцыю сарваць мітынг БНФ наўсуперак таму, што на яго быў дазвол. Інструктаж быў вельмі канкрэтны і датычыўся да формы вопраткі ('не выдзяляцца'), аплаты за страчаны дзень адпачынку, маршруту руху, нават 'мэню' ('вазьмеце сала, таму што каўбаса ў нас дрэнная'). Партыйны лідэр кастрычніцкага раёну г. Менску блаславіў і ўжываньне 'фізычнага ўзьдзейваньня на найбольш экстрэмісцка настроеных элемэнтаў, асабліва моладзі, падкрэсьліў, што ўся 'зараза' — з Прыбалтыкі, а таксама адзначыў свой удзел у 'сьвятой' справе крытыкі ЦК КПСС за дапушчэньне 'беспарадкаў' у Прыбалтыцы, Маскве, Ленінградзе.

«У дадатак да ўсяго, а 13.00 гадз. 25 сакавіка гарком КПБ пачаў мітынг на тым самым месцы, дзе БНФ а 14.00 плянаваў пачаць свой. І ўсё-ткі мітынг адбыўся. Пакінуўшы мітынгу абкому 400 ягоных дружыньнікаў, БНФ узьняў нацыянальныя сьцягі й гэрбы ў недалёкай ад таго месца паркавай зоне. Была адданая даніна Дню незалежнасьці, афіцыйна зганьбаванаму і адзначанаму ўпяршыню за 70 гадоў. 'Дружыньнікі', што былі там, і сем аўтобусаў дадатковa падвезенай міліцыі на чале з партыйным кіраўніцтвам не адважыліся выступіць супраць 35 тысячаў чалавек».

## АМЭРЫКАНСКІ «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ



*Канцэрт у беластоцкім амфітэатры, дзе было больш за чатыры тысячы гледачоў.*

Ад 18-га па 30-га чэрвеня танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» (кіраўнічка — др. Ала Орса-Рамана) гастраляваў па Беласточчыне на запросіны Культурнага Дому ў Беластоку і вакальна-інструмэнтальнага ансамблю «Дубіны».

«Васілёк» даў канцэрты беларускіх народных танцаў у Гайнаўцы, Бельску, Беластоку, Белавежы і Сямятычах. У Беластоку 25 чэрвеня адбыўся вялікі фэстываль беларускай культуры, у якім узялі ўдзел пяць гурткоў зь Беласточчыны, а таксама вакальна-інструмэнтальны ансамбль «Лявоны» з Горадзеншчыны ды амэрыканска-беларускі «Васілёк».

Фэстываль быў зарганізаваны Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам. Адчыняючы яго, старшыня БГКТ др. Аляксандар Баршчэўскі падкрэсьліў вялікае значаньне гэтае унікальнае ўсебеларускае культурнае падзеі, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі Беларусаў з БССР, ПНР і Амэрыкі, для працэсу перабудовы і ўмацаваньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці.

Сустрэчы «Васілька» з суродзічамі-беластаччанамі й гасьцямі з БССР, сардэчнасьць, зь якою беластаччане сустракалі сваіх заакіянскіх сяброў, шчырыя й шчодрыя воплескі ў часе выступаў на канцэртах, пакінулі па сабе незаціральны след у «васількоў», і, трэба думаць, у тых, хто іх спаткаў і бачыў на сцэне.

У падарожжа на Беласточчыну езьдзілі: Азарка Нона й Юрка, Бартуль Аня й Вера, Бахар Галіна й Нік, Данілюк Ліда, Запруднік Вера, Захаркевіч Надзя, Кіпель Алеся й Юрка, Рамана Ала, Коля, Павал, Рыжы Дарота й Пётра, Сурвіла Паўліна, Суіні Лёрэйн, Тур Віктар, Шульжыцкая Таццяна.

Некаторыя ўдзельнікі падарожжа (а можа кожны зь іх?) падзеляцца з чытачамі «Беларуса» сваімі ўражаньнямі ад сустрэчаў у далейшых нумарох газэты.

## ТРЭБА ГЛЯДЗЕЦЬ, КАМУ ДАПАМАГАЦЬ

У сьвятле зьмешчанага ў гэтым нумары рэпартажа зь Беласточчыны («Беларусы Беласточчыны на палітычнай арэне») Беларусам на Захадзе трэба добра падумаць пра ўмовы далейшае дапамогі праваслаўным цэрквам на Беласточчыне. У дачыненьні да некаторых цэркваў, як выглядае, трэба ставіць пытаньне, ці ім дапамагаць наагул.

## ПАДЗЯКА

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў (у Польшчы) шчыра дзякуе Беларусам Паўночнай Амэрыкі за шчодры падарунак беларускамоўнага камп'ютэра, які будзе ўжывацца для выдавецкае дзейнасьці. Дзякуем таксама сп. Алексу Сільвановічу за фотаапаратуру для дакумэнтацыі й выдавецкае справы.

**Яўген Вапа**, старшыня БАС

**Юрка Каліна**, старшыня беластоцкага адзьдзелу БАС

# МІКОЛА КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ

**(1897-1969)**

*(Працяг; пачатак у №№ 358, 359)*

У 1944 годзе ў Бэрліне была апублікаваная кніга Куліковіча-Шчаглова «Беларуская музычная культура».

Калі скончылася вайна кампазытар апынуўся ў палажэньні чалавека, якому, як нараджэнцу Масквы, пагражала дэпартацыя на Ўсход на прыхамаць таго ці іншага няпрыхільнага саюзьніцкага бюракрата. Дзеля гэтага якраз ён пачаў карыстацца прозьвішчам маці, Куліковіч, прысьвячаючы справе арганізацыі культурнага жыцьця ў лягерох перамешчаных асобаў, дзе тысячы Беларусаў змушаныя былі дзяліць свой выгнаньніцкі лёс.

Супольна з групай актораў і пісьменьнікаў Куліковіч зарганізаваў паходную трупу «Беларускі тэатр эстрады», у рэпэртуары якога былі кароткая п'еса Н. Арсеньневай «Купальская ноч», опэрныя арыі, народныя танцы, дэклямацыі, народныя песьні, балетныя нумары, скечы ды лялькавыя паказы. Шмат якія з гэтых нумароў і бальшыня музыкі належалі Куліковічу, які выявіўся таксама здольным лібрэтыстам («Цыганская рапсодыя», «Усьмешкі каханьня»). Куліковіч-Шчаглоў сам выступаў як сьпявак і актор, часта выконваючы камічную ролю пантамімавае дамы, штó ён рабіў зь вялікім смакаваньнем. Адным з суўдзельнікаў гэтых паказаў быў Пётра Звонны, аўтар і кампазытар шырака папулярнай песьні «Ідуць жаўнеры-Беларусы». Выступленьні Беларускага тэатру эстрады перад балцкімі, расейскімі, украінскімі і нават нямецкімі аўдыторыямі адыгралі важную ролю ў пашырэньні веды пра беларускую сур'ёзную музыку ды лёгкае забаўляньне. Куліковіч напісаў музыку да шэрагу кароткіх п'есак, камэдыяў, вадэвіляў і скечаў: «Пад бярозкай», «Казка пра калхозную сям'ю», «Піф-паф», «Паланянка», «Галіны мастацтва», «Сватаньне», «Драма ў замку», «Пат і Паташон» і нават паўдзесятка п'есак парасейску, у тым ліку «Длинная рука. — Убийство Троцкого». Паэзія яму давалася лёгка, у яго ёсьць шэраг песенных тэкстаў, у тым ліку беларускія вершы. Ягоны ўклад у беларускую літаратуру й драматургію чакае яшчэ свайго дасьледніка.

Жывучы ў Нямеччыне, кампазытар, апрача вышэй названага, займаўся таксама распрацоўваньнем нацыянальнага стылю царкоўнае музыкі. Ён закончыў «Літургію Сьв. Яна Хрызастома» і «Ўсяночную» (1948), а таксама «Вялікодны канон», выкарыстоўваючы папеўкі з народных песьняў, гэткія як «На Йвана ночка маленькая», «Радзі Божа жыта» і «Ці ня быстрая рэчка». Ягоныя спробы аднавіць цыкль «Актаэхас» (васьмігаласьнік) на народных папеўках былі менш удалымі: у іх нехапала разнастайнасьці, яны зашмат паўтараліся, былі на мяжы мэханічнасьці. Нават у сваіх вольных кампазыцыях катэдральных гімнаў, прыкладам «Иже херувимы» (н-ры 2 і 3), ён уводзіў элемэнты народнае музыкі. Ён рэдка «цытуе» народныя песьні, як гэта рабіў Равенскі ў сваёй царкоўнай музыцы, але ён здолеў выкарыстоўваць нюансы ды «ўлоўліваць іхны водар», як гэта ён рабіў у сваіх сьвецкіх харавых творах. Часамі, шукаючы кантрастаў, ён, як прыкладам у «Благослови, душе моя» і «Верую» зь ягонае «Літургіі» (1948), карыстаўся акадэмічным стылем Іпалітава-Іванава і Анцава.

Калі на Захадзе зьявіўся вольны беларускі друк, Куліковіч-Шчаглоў здолеў таксама аднавіць сваю дзейнасьць як музычны крытык і гісторык, друкуючы свае артыкулы ў гэткіх выданьнях, як газэта «Бацькаўшчына».

Ён працягваў таксама зьбіраць матар'ял да свае вялікае працы «Беларуская народная песьня» — грунтоўнае дасьледаваньне беларускага музычнага фальклёру. Яна складалася зь дзьвюх частак: «1. Гістарычныя даныя аб беларускім песенным фальклёры: цыклі, жанры і формы песеннасьці» і «2. Аналіз музычнае структуры беларускай творчасьці». Гэты манумэнтальны праект застаўся нясконченым, хоць ладныя часткі былі ўжо гатовыя да друку, калі Куліковіч памёр.

У 1950 годзе Куліковіч-Шчаглоў эміграваў у Злучаныя Штаты, дзе ён пасяліўся на кароткі пэрыяд у Нью-Ёрку і зарабляў спачатку на пражыцьцё музычнымі лекцыямі і ігрой на піяніна. У гэтым часе ён сустрэў і ажаніўся з Надзеяй Градэ, прыгожай былой прымадоннай Кіеўскае і Венскае опэраў. Выдатнае сапрана Градэ, якому апладыраваў Сталін, у спалучэньні са значнымі здольнасьцямі Куліковіча як акампаньятара, далі магчымасьць гэтай пары працягваць іхную музычную прафэсію ў партнэрстве: яны выступалі з канцэртамі ў Злучаных Штатах і Канадзе. Праграма звычайна ўключала нумары з багатага клясычнага рэпэртуару Градэ (Пучыні, Гуно, Бізэ, Манюшка, Рахманінаў, Андрыты) разам з выбарам арыяў і канцэртных апрацовак народных песьняў Куліковіча, Туранкова, Карповіча ды іншых беларускіх кампазытараў («Васількі», «Што за месяц», «Алеся», «Жаваронак», «Халімон», «Вясьнянка» ды іншыя).

Куліковічы нарэшце асяліліся ў Чыкага, сусьветна ведамым музычным цэнтры, дзе ад 1890-х гадоў сяліліся Беларусы ды дзе была важная й актыўная беларуская грамада.

*(Працяг у наступным нумары)*

### *КАМП'ЮТЭРЫЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

У «Настаўніцкай газэце» (28.VI) узьнятае пытаньне стварэньня праграмы камп'ютэрызацыі, якая-б паспрыяла пашырэньню сфэры ўжытку беларускай мовы. Праграму гэткую прапануецца назваць «Скарына» (у сувязі зь 500-годзьдзем нараджэньня Францішка Скарыны, якое ў БССР будзе адзначацца ў наступным годзе).

У распрацоўваньні гэткае праграмы, думаецца, маглі-б узяць і Беларусы ў ЗША, дзе камп'ютэрная тэхналёгія стаіць найвышэй у сьвеце і дзе сярод нашых суродзічаў ёсьць добрыя спэцыялісты камп'ютэрызацыі.

### «ПАРАДАК СЬВЯТОЙ ІМШЫ»

«ПАРАДАК СЬВЯТОЙ ІМШЫ З НАРОДАМ» — пад гэткім загалоўкам выйшла летась у Лёндане і Вішневе (БССР) вялікага фармату брашура (35 бб.), у якой пададзены беларускі тэкст багаслужбы для Беларусаў-каталікоў Рымскага абраду. Тэкст зацьверджаны Апостальскай сталіцай. Набыць публікацыю можна ў Беларускім Каталіцкім Душпастырстве ў Лёндане, пішучы на адрас:

Apostolic Visitor for Byelorussians
Marian House
Holden Avenue
London N12 8HY
ENGLAND

**Уладзімер Арлоў**

## ЕФРАСІНЬНЯ

Калі апусьцее храм і абязьлюднее цьвінтар, калі аціхне прадмесьце і шызы голуб апусьціцца на вузкае ваконца, лёгкі павеў кранае Тваё аблічча і Ты ажываеш — уся, апрача вачэй, бо вочы Твае ніколі не паміралі.

У сьвятле нямесячнай ночы ідзеш Ты ў сваю галубніцу, і нашы дзённыя пацеры шапацяць у Цябе пад нагамі апалым лісьцём і ўспыхваюць халоднымі балотнымі агнямі.

Штоночы прыходжу, каб сустрэцца з Табою, але Ты яшчэ ня чуеш маіх слоў, і, калі на сьвітаньні я асьмельваюся заступіць Табе дарогу, Ты праходзіш скрозь мяне і зьліваешся з халодным тынкам.

Кожны дзень я малюся Тваім вачам.
Кожную ноч спадзяюся, што Ты пачуеш мой голас.
Кожнае сьвітаньне чакаю, што Ты пройдзеш скрозь мяне — і застанешся ўва мне.

*(«Літаратура і Мастацтва», 28.IV.89)*

# МІКОЛА БАЙКОЎ

**Да пытаньня даты сьмерці**

Мікалай Байкоў (псэўданім Мікола Крывіч) быў лінгвістам, літаратураведам, пэдагогам і беларускім патрыётам. Каб Байкоў выглядаў меншым «нацыяналістам», савецкія даведнікі перанесьлі дату ягонае сьмерці з 1945-га, а можа й пазьнейшага году, на 1941-шы, на другі дзень вайны — 23-га чэрвеня (гл. БелСЭ, т. 2, і ЭЛіМБ, т. 1). З гэтых даведнікаў памылковая дата сьмерці пераходзіць і ў некаторыя іншыя публікацыі.

Мікола Байкоў быў блізкім чалавекам у нашай сям'і. Мой бацька пазнёміўся з Байковам у Менску на пачатку 20-х гадоў, калі, дэмабілізаваўшыся з Чырвонай Арміі, пачаў працаваць у Тэрміналягічнай камісіі, у вайсковай сэкцыі. Мікола Байкоў, з нацыянальнасьці Расеец, выкладаў беларускую граматыку для былых вайскавікоў. Кантакт у майго бацькі з Байковам не парваўся і пасьля 1930 году, калі бацьку арыштавалі.

Мікола Байкоў на працягу 1920-х гадоў шмат пісаў у беларускія часапісы, быў салідным пэдагогам і дасьледнікам беларускае культуры, мовы. Калі пачаўся пагром нацдэмаў, Байкову таксама давялося цяжкавата, хоць яго, здаецца, не арыштоўвалі.

У 1931 годзе Байкоў працаваў у Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве, быў там стылістычным рэдактарам, і мая маці добра памятае, як Байкоў, а таксама пісьменьнік Міхась Лынькоў ды іншыя пакінутыя «на волі» Беларусы-патрыёты (маці кажа, што ў Менску ніхто ня ведаў, што Байкоў — Расеец) дапамагалі жонкам нацдэмаў, даючы ім працу дахаты (пераклады, карэкту і г.д.). Байкова таксама абвінавачвалі ў нацдэмаўшчыне і контррэвалюцыі. Асабліва вытыкалі яму ягоныя выказваньні аб XVI-м стагодзьдзі як аб «залатой пары». І як вялікае было наша задаваленьне й зьдзіўленьне, калі пасьля 12-х гадоў жыцьця ў розных кутах Савецкага Саюзу нам давялося ў 1942 годзе вярнуцца ў Менск і сустрэць там Міколу Байкова.

У 1941-42 гадох Байкоў працаваў у Менску, ці то ў Інспэктарыяце Школаў ці ў Самапомачы, ня ведаю. Ад часу-ж, калі быў створаны пры Беларускай Цэнтральнай Радзе Навуковы адзьдзел і мой бацька стаўся загадчыкам гэтага адзьдзелу, Мікола Байкоў перайшоў туды працаваць. У Навуковым адзьдзеле рыхтавалася сэрыя падручнікаў для беларускіх школаў. Байкоў гэтыя падручнікі рэдагаваў. У пачатку 1944 году пайшлі ў друк гэткія падручнікі: «Батаніка», «Арыфмэтыка», «Фізыка», «Анатомія» і, мне здаецца, «Грамадазнаўства». На пачатак школьнага 1944 году плянавалася выдаць для сярэдніх школаў каля 10-х падручнікаў. Аднак гэтыя пляны ня збыліся. У чэрвені-ліпені таго-ж году беларуская адміністрацыя пакінула Менск. Выехаў на Захад таксама й Мікола Байкоў. Зноў спаткалася нашая сям'я зь ім у Бэрліне ўвосень 1944 году. Там Байкоў працаваў, здаецца, у вайсковым адзьдзеле БЦР, а пасьля — у канцылярыі Канстантына Езавітава. Апошні раз мы сустрэліся з Байковам у Бэрліне ў лютым 1945 году. Што сталася зь ім пазьней, я дакладна ня ведаю. Былі чуткі, што Міколу Байкова расстралялі савецкія жаўнеры, калі прыйшлі ў Бэрлін. Паводля іншых чутак, яго забралі ў Менск і там судзілі. Як-бы там ні было, дата сьмерці Міколы Байкова, беларускага моваведа й патрыёта, павінна быць перасунутая прынамся на 1945 год.

**Вітаўт Кіпель**

## ЗЬНІКНЕНЬНЕ ЯФРЭМА САКАЛОВА

**Разьбежнасьць «Праўды» і «Нью-Ёрк Таймсу»**

У дзьвюх найбольш уплывовых газэтах Амэрыкі, «Нью-Ёрк Таймс» і «Вашынгтон Пост», зьявілася 2 ліпеня паведамленьне з Масквы аб тым, што напісана ў «Праўде» папярэдняга дня, 1-га ліпеня. Паводля абедзьвюх амэрыканскіх газэтаў, «Праўда» войстра скрытыкавала першага сакратара кампартыі Беларусі Яфрэма Сакалова за тое, што Сакалоў «намагаецца задушыць нацыянальны рух (у БССР), Беларускі Народны Фронт» ды штó Сакалоў з «абыякавасьцяй і неталерантнасьцяй» (intolerance and aloofness) ставіцца да «шырокіх спробаў бараніць беларускую мову, прыроднае навакольле і культуру».

Тое-ж самае падала, пераказваючы артыкул «Праўды», і газэта «Вашынгтон Пост». Паводля гэтае апошняе, «Праўда» напісала, што «абыякавасьць і неталерантнасьць» Яфрэма Сакалова «ня прыносяць гонару Беларускай партыйнай арганізацыі».

Калі прыйшла да нас «Праўда» за 1-га ліпеня з артыкулам менскіх карэспандэнтаў газэты А. Сімурава і А. Уліцёнка (заг. арт. «Барьер из трех 'почему'»), мы нічога падобнага ў ім не знайшлі, прозьвішча Сакалова ў ім нават ня згадваецца.

Загадка? Ды яшчэ якая! Як яе растлумачыць? Будзем прабаваць перш-наперш, зварачваючыся да маскоўскіх карэспандэнтаў «Нью-Ёрк Таймсу» і «Вашынгтон Посту».

---

Выйшаў з друку першы нумар бюлетэню **Byelorussian Review**, які выдаецца адзьдзелам БАЗА ў Каліфорніі.
Адрас: P. O. Box 10353
Torrance, CA. 90505

## БІСКУП ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Папа Ян Павал II назначыў 43-гадовага біскупа Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам у Менску. Народжаны на Горадзеншчыне, Кандрусевіч духоўную асьвету здабыў у Літве, быў ад 1981 году сьвятаром у Вільні, а ад леташняга году — у Горадні.

# БЕЛАРУСКАЕ НЕПАДЦЭНЗУРНАЕ СЛОВА Ў ПНР

На працягу ўсіх паваенных гадоў існаваньне беларускай культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы было ў цеснай залежнасьці ад добрай ці злой волі камуністычных уладаў, а таксама стаўленьня польскага грамадзтва. На Беласточчыне на «казённай ласцы» знаходзіўся ўсе дзялянкі беларускага грамадзка-культурнага жыцьця, у тым ліку ўся літаратурная і публіцыстычная дзейнасьць.

Напрыклад, Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, як арганізацыя, поўнасьцю залежная ад Міністэрства ўнутраных спраў. Беларускія аўтары мусяць пераадолець шмат цяжкасьцяў, шмат гадоў пачакаць, каб выдаць сваю кніжку пад БГКТ-оўскай шыльдай. Нашмат хутчэй за беларускія арыгіналы можна пабачыць польскія пераклады.

Ня лепш выглядае справа ў галіне публіцыстыкі. «Ніва» і «Беларускія календары» не адлюстроўваюць сапраўднага вобразу жыцьця Беларусаў у Польшчы. Ёсьць тэмы, якіх кранаць нельга — нават сёньня ў часе савецкай «перабудовы» і польскай «дэмакратызацыі».

Можа ўзнікнуць пытаньне: чаму-ж Савецкая Беларусь не дапамагае? А справа ў тым, што ўлады БССР на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў мелі зусім іншую мэту — не разьвіваць, а зьнішчаць нацыянальную культуру. Праўда, апошнім часам пачынае крыху наладжвацца супрацоўніцтва паміж БГКТ і бээсэсэраўскімі ўстановамі, але яшчэ яно далёкае ад нармальнага. Вось прыклад: БГКТ атрымала шмат кніжак зь Беларусі, але якіх? Ці сапраўды неабходных, патрэбных вучням у школах? На жаль, зусім наадварот. Бальшыня зь іх — гэта розная расейшчына, а калі й трапіла нешта пабеларуску, дык пераважна гэта казённая, партыйная прапаганда. Напэўна не таго чакалі на Беласточчыне.

Таму на пачатку 80-х гадоў, калі ўлады ў Польшчы дазволілі на нейкую дэмакратыю, пачало будзіцца беларускае незалежнае жыцьцё, у тым ліку й незалежныя выдавецтвы. Выдавецтвы паставілі сабе за мэту перш-наперш адлюстраваць сапраўднае становішча беларускай меншыні, задакумэнтаваць нацыянальнае жыцьцё, забясьпечыць беларускага чытача сваёй мастацкай і гістарычнай літаратурай.

Ужо пры канцы вясны 1981 году заснавалася ў Беластоку Беларускае Незалежнае Выдавецтва (БНВ). Яно выдала чатыры сшыткі «Беларускіх дакумэнтаў», у якіх было зьмешчана шмат архіўных матар'ялаў пра беларускае жыцьцё, якія афіцыйна не публікаваліся. БНВ выдала брашурку беластоцкага ананімнага аўтара «Думкі пра аўтаномію», ананімны вершаваны твор з БССР «Сказ пра Лысую гару» і перавыдала «Дэкларацыю правоў чалавека».

Нягледзячы на завастрэньне польскіх законаў у сувязі з ваенным станам, выдавецтва вяло працу да 1983 году, калі яно ўсё-ткі было змушанае спыніць сваю дзейнасьць, як пісалі выдаўцы, «да лепшых часоў». І сапраўды, на пачатку 1988 году дзейнасьць БНВ узнавілася. На гэты раз выпусціла яно тры кніжыцы: «Ліст да сябры», «Дзевяць вершаў Ларысы Геніюш» ды эміграцкіх «Архіўны сшыткаў» з дакумэнтамі за пэрыяд 1983-87 гадоў.

У другой палавіне леташняга году і сёлета ўзьніклі тры зусім новыя выдавецтвы: літаратурнае «Бераг», гістарычнае «імя У. Ігнатоўскага» і публіцыстычнае «Кантакт». Таксама ўвосень 1988 г. была перавыдадзеная праца эміграцыйнага гісторыка Аўгена Калубовіча «Айцы БССР і іхны лёс», тады яшчэ пад шыльдай польскага выдавецтва «Нурт».

Плёнам выдавецтва імя У. Ігнатоўскага сталася брашура «25 Сакавіка і беларускае адраджэньне» — кніжнае выданьне артыкулаў А. Калубовіча, зьмешчаных раней у эміграцыйным часапісе «Беларуская Думка».

Выдавецтва «Кантакт» выпусьціла часапіс з такой самай назвай. Мэта яго — літаратурна-публіцыстычнае супрацоўніцтва Беларусаў незалежна ад месца пражываньня, ці ў БССР, ці раськіданых па Савецкім Саюзе, ці ў цяперашняй Польшчы, ці на эміграцыі. У часапісе зьмяшчаюцца нарысы зь гісторыі Беларусі, навуковыя досьледы на сучасныя тэмы, публіцыстычныя і палітычныя матар'ялы.

Выдавецтва «Бераг» выдала два зборнікі паэзіі: «Моладзі» Янкі Купалы і «Саната ростані» Зьніча. Над гэтымі апошнімі спынімся крыху даўжэй.

Вось што выдаўцы пісалі ва ўступным слове да «Моладзі»: «Аддаем у Вашыя рукі, шаноўныя чытачы, першую кніжыцу толькі што ўзьнікшага беларускага незалежнага выдавецтва 'Бераг'. Выдавецтва ўзьнікла ў выніку патрабаваньняў маладой інтэлігенцыі на высокамастацкія творы беларускай літаратуры і крытыкі. Невыпадкова першым нашым выданьнем зьяўляецца выбар вершаў Янкі Купалы — змагара за лепшую долю свайго народу і Бацькаўшчыны. Цэлае сваё жыцьцё ахвяраваў ён Беларусі, за яе зьгінуў з рук КГБ у 1942 годзе».

У зборнік увайшло 28 вершаў літаратурнай спадчыны нашага песьняра, якія нават сёньня ў пэрыядзе «галоснасьці» забароненыя ў Беларусі, або цяжка даступныя чытачом. А верш «Хаўрусьнікам» друкуецца ўпяршыню.

«Саната ростані» Зьніча (такі літаратурны псэўданім Алега Бембеля) — гэта зборнік рэлігійнай паэзіі, у асноўным прысьвечаны 1000-годзьдзю хрысьціянства на Беларусі. Падзелены ён на пяць частак: «Спадчына», «Цені сучасьнікаў», «Клясычныя матывы», «Маленьні», «Кода». Кожная з іх закранае грамадзкія, маральныя або філязофскія тэмы. Шмат якія вершы вымагаюць усебаковага веданьня беларускай савецкай рэчаіснасьці. Зборнік гэты набывае асаблівага значэньня тым, што ўсе вершы, зьмешчаныя ў ім, узьніклі на падсавецкай Беларусі, дзе бязупынна праводзіцца атэізацыя грамадзтва. Нават «перабудова» не дае магчымасьці пабачыць большасьць вершаў у БССР-аўскім друку. «Саната ростані» пачынаецца шырокавядомым ужо вершам «Вякі плывуць», які быў надрукаваны ў першым зборніку Зьніча «Рэха малітвы», выдадзеным таксама не ў БССР.

Назіраючы разьвіцьцё беларускага незалежнага слова пад Польшчай, трэба глядзець на будучыню аптымістычна: беларускі непадцэнзурны друк — гэта найбольшая зарука жыцьцяздольнасьці беларускай меншыні ў цяперашняй Польшчы.

**Сьцяпан Балазе**

## НОВЫЯ ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА Й ЛЕАНІДА БАРТКЕВІЧА

Выйшла касэта (неўзабаве выйдзе й кружэлка) выдатных сьпевакоў Данчыка Андрусышына і Леаніда Барткевіча «Мы адной табе належым...». На касэце 12 песьняў: **Беларусь мая** (муз. Вадзіма Навіцкага, сл. Сяржука Сокалава-Воюша); **Трэба дома бываць часьцей** (Ігар Лучанок — Рыгор Барадулін); **Ядлаўцовы лес** (Яўген Магаліф — Адам Глобус); **Не за вочы чорныя** (Юры Семяняка — Адам Русак); **Шумныя бярозы** (Рыгор Пукст — Янка Купала); **Зваяваным** (Мікола Куліковіч — Я. Купала); **Песьня аб радзіме** (Леанід Барткевіч — Генадзь Бураўкін); **Алеся** (І. Лучанок — Аркадзь Куляшоў); **Беларусачка** (Ю. Семяняка — Алесь Ставер); **Жураўлі на Палесьсе ляцаць** (І. Лучанок — А. Ставер); **Як у лесе зацьвіталі** (Дзьмітры Лукас — Я. Купала); **Крыніцы** (муз. і сл. С. Сокалава-Воюша).

Цана касэты або кружэлкі — 20 ам.дал. плюс кошт перасылкі: у ЗША — 3 д., у Канаду — 3,5 д. за кружэлку, а за касэту — 1 д.

Заказы слаць на адзін з двух адрасоў:

J. Andrusyshyn
430 E. 6th St., Apt. 3C
New York, N.Y. 10009

Vera Bartul
146 Sussex Dr.
Manhasset, N.Y. 11030



*Вокладка новае касэткі «Мы адной табе належым...» з патрыятычнымі, любоўнымі й народнымі песьнямі ў выкананьні бардаў Данчыка Андрусышына і Лявона Барткевіча. Данчык зьлева, Лёня справа.*

## РОК-МУЗЫКА ВЫЛЕЧВАЕ ДУШЫ

Малады беларускі бард зь Ліды Сяржук Лаўнік на пытаньня «Як пазбавіцца ад комплексу непаўнацэннасьці?» адказаў («ЧЗ», 17.IV.89):

«Беларускі рок стварыў такі прэстыж роднаму. Прынамсі, для моладзі (а за ёй-жа будучыня). Паслухаеш магутныя акорды 'Мроі', віртуозную гітару Янкі Маркава з 'Бонды' — захапленьне. А гэта-ж наскрозь наша, беларускае (і тэкстамі, і музычнымі традыцыямі, і сьветапоглядам)».

Да гэтага выказваньня аўтар карэспандэнцыі Вінцук Гуненка дапісаў: «Я-б дадаў, што ня толькі беларускі рок, але і беларуская бардаўская песьня імпэтна далучылася да гэтай місіі».

У тым самым нумары «ЧЗ» філёляг Пятрусь Капчык, у які жыве ў г. Ізяславе на Ўкраіне, піша, што яму «вялікую асалоду» прыносіць слуханьне беларускіх рок-групаў «Мроя», «Бонда», «Мячцовы час», «а таксама бардаў Данчыка і Сяржука Сокалава-Воюша».

# *СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ*

З прыходам «галоснасьці», як грыбы пасьля дажджу, пачалі вылузвацца беларускія музычныя й песенныя гурты, хоць ачмурэлае кодла бюракратаў яшчэ ўсё цьвердзіць, што сьпяваць пабеларуску — гэта каньюнктура або нацыяналізм.

У 1970-х гадох, як золак на даглядзе, праблізнуў гурт «Песьняры», што ў новым жанры спалучыў традыцыйныя мэлёдыі й сучасны стыль выкананьня. Нам добра ведама, як калектыў «Песьняры» змагаўся за чысьціню й апрыючнасьць беларускай песеннай культуры, як бюракраты самавольна выкідалі з рэпэртуару «Песьняроў» праявы беларускай песеннай спэцыфікі. Вось тут і падаём выказваньне Лявона Барткевіча, беларускага сьпевака, заслужанага артыста БССР, саліста Беларускага радыё й тэлебачаньня (гл. інтэрв'ю ў «Чырвонай зьмене», 18.II.89): «У нашай моўнай сытуацыі беларуская песьня мае немалое значэньне ў адраджэньні роднай мовы, у папулярызацыі паэзіі. Вось часам гартаеш нейкі зборнік — і не знаходзіш нічога для душы: можа напісана складана, можа настрой не адпавядае. А загучыць з музыкай, у песьні — і аж да глыбіні сэрца даходзіць. Дый нават любімыя ў народзе вершы Багдановіча, Купалы, Куляшова песьня робіць блізкімі яшчэ большаму колу людзей. Наагул, беларускі верш — гэта толькі мае ўражаньні — сардэчны, мілагучны, само слова наша такое мяккае, добрае, а ў песьні яно яшчэ больш зачароўвае. Песьня — гэта ўсё... Я лічу, 'калі не сьпяваць аб радзіме, дык навошта наогул сьпяваць'. Гэта словы зь вершу Генадзя Бураўкіна, які мы нядаўна запісалі на дыск у Амэрыцы разам з Данчыкам».

Між іншага, наш слаўны Данчык зь Нью-Ёрку, паводля праведзенага «Чырвонай зьменай» апытаньня, стаіць сваёй папулярнасьцяй сярод маладых Беларусаў на другім месцы за амэрыканскім сьпеваком Майкелам Джэксанам.

Беларуская папулярная музыка, у тым ліку й рок-музыка, адыграе вялікую ролю ў замацоўваньні любові да роднай мовы. Два найбольш славутыя рок-гурты, «Мроя» і наваполацкі «Мясцовы час», якія папулярызуюць беларускую мову, сталіся аб'ектам беспадстаўнага цікаваньня на старонках газэты «Вячэрні Мінск».

Не зважаючы аднак на розныя перашкоды з боку камандна-бюракратычнай сыстэмы, маладыя сьпевакі й паэты-кампазытары, у тым ліку Сяржук Сокалаў-Воюш, працуюць інтэнсыўна й карпатліва на песеннай музычнай ніве, хоць і ня маюць магчымасьці выдаць свае кружэлкі, а гэта таму, што рэспубліка да гэтага часу ня мае нават свае студыі гуказапісу.

Спадзяёмся, што будучыня будзе для іх больш спагадлівай.

**Др. Вітаўт Рамук**

*З жыцьця ў Лёндане (Ангельшчына)*

## ЗЬЕЗД ЗБВБ

3-га чэрвеня сёлета тут адбыўся 43-ці агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Нарады праходзілі ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў зьезд старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк, прывітаўшы ўдзельнікаў і гасьцей зь Беласточчыны. У мандатную камісію былі абраныя сп.сп. А. Калько, Хв. Лемяшонак і М. Сенька, у прэзыдыюм — Я. Міхалюк (старшыня), Я. Сяўковіч і А. Зданковіч (сакратары).

Справаздачныя даклады паказалі, як шырока праводзілася дзейнасьць Згуртаваньня ў нутраным жыцьці і навонкі. ЗБВБ прадстаўленае ў Групе Эўрапейскае Сувязі, у якую ўваходзяць прадстаўніцтвы 14 паняволеных Маскоўй краінаў; супрацоўнічае зь Міжнароднай Амністыяй, якая вядзе кампанію за вызваленьне вязьняў сумленьня й спрычынілася да вызваленьня беларускага іншадумца Міхася Кукабакі; цесна супрацоўнічае з Англа-Беларускім Таварыствам і Беларускай Бібліятэкай імя Ф. Скарыны.

Зьезд выказаў падзяку а. Аляксандру Надсону за дзейнасьць Бібліятэкі, якая ўсё больш і больш узбагачаецца сваймі набыткамі, і за супрацоўніцтва з ЗБВБ.

Прызнаўшы абсалютарыюм уступаючай управе, зьезд абраў новую галоўную ўправу ў складзе: Я. Міхалюк — старшыня, А. Зданковіч — заступнік старшыні, Я. Сяўковіч — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, М. Сенька — сябра. У наглядную раду й сяброўскі суд увайшлі: М. Баяроўскі, А. Калько і А. Ражанец.

Госьці зь Беласточчыны, два браты Антон і Яўген Міраноўічы падзяліліся сваймі ўражаньнямі ад зьезду, а таксама паінфармавалі аб беларускім жыцьці на Беласточчыне: аб сьвяткаваньні ў Беластоку 25 Сакавіка, легалізацыі Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў ды выдавецкіх справах (часапіс «Кантакт» і інш.).

Зьезд закончыў сваю працу адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

## НАВЕДНІКІ БЕЛАРУСКАЕ БІБЛІЯТЭКІ

Беларуская Бібліятэка й Музэй імя Ф. Скарыны набылі славу сярод Беларусаў на Бацькаўшчыне сваймі багатымі кніжнымі й рукапіснымі фондамі. Суродзічы з БССР, якім даводзіцца быць у Лёндане, не прамінаюць нагоды, каб наведаць Бібліятэку. Вось і 24-га травеня сёлета прыбыла з Савецкага Саюзу група наведнікаў — больш за 35 асобаў: 15 са Смаленску, а рэшта зь Менску (сярод іх адзін Латыш). Іхны побыт у Бібліятэцы быў кароткі (20 хвілінаў). Мастак Сяргей Крыштаповіч прывёз падарунак Бібліятэцы свае чатыры абразы — з адлюстраваньнем важных эпізодаў беларускай гісторыі. Мастак прывёз таксама падарунак ад Міхася Раманюка — экзэмпляр ягонае выдатнае кнігі «Беларускае народнае адзеньне» з аўтографам аўтара.

## ДАКЛАД БЕЛАСТАЧЧАНАЎ

Галоўная ўправа ЗБВБ наладзіла 10 чэрвеня ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны сустрэчу з братамі Міраноўічамі зь Беластоку. Абодвы яны гісторыкі.

Старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк цёплымі словамі прывітаў гасьцей, зазначыўшы, што Антон Міраноўіч ужо другі раз у Лёндане, і лёнданскія Беларусы вельмі ўсьцешаныя тым, што кантакты зь Беларусамі Беласточчыны й савецкае Беларусі ўсьцяж пашыраюцца.

Антон Міраноўіч прачытаў даклад на тэму «150-годзьдзе Рускай Праваслаўнай Царквы ў Беларусі», а Яўген Міраноўіч — «Адносіны польскіх уладаў да Беларусаў у пэрыядзе 1944-1980 гадоў».

Абодвы даклады вельмі цікавыя й добра ўдакумэнтаваныя. Пытаньне стаўленьня польскіх уладаў да Беларусаў было для слухачоў зусім новым, асабліва падзеі сярэдзіны й другое палавіны 40-х гадоў, калі палажэньне Беларусаў у Польшчы было нязвычайна цяжкім. На Беласточчыне ня толькі забівалі людзей, палілі вёскі, але над Беларусамі, якія выяўлялі сваю нацыянальную сьведамасьць, вісела пагроза высяленьня ў БССР. У гэткіх умовах, зразумела, нельга было спадзявацца ані нармальнага грамадзкага жыцьця сярод беларускага жыхарства, ані праўдзівае статыстыкі. Сёньня на Беласточчыне, сказаў дакладчык, налічваецца больш за 180 тысячаў Беларусаў.

**А. Зданковіч**

*З жыцьця ў Чыкага*

## УГОДКІ СЬВЯТАРСТВА а. Я. СЫРУ

У нядзелю 28 травеня парафія беларускай каталіцкай царквы Хрыста Забаўцы адзначыла 20-годзьдзе сьвятарства свайго настаяцеля а. Язэпа Сыру. Была адслужаная ўрачыстая Літургія самым юбілярам ў асысьце шасьцёх сьвятароў і двух дыяканаў. Прынагодную казань сказаў а. Майкл Гілігэн, дырэктар каталіцкай прэсавай агенцыі, падкрасьляючы нястомную й крапатлівую працу а. Язэпа для нашай парафіі. На прыняцьце з абедам у царкоўнай залі зыйшлося каля 150 асобаў, у тым ліку прадстаўнікі парафіяў, дзе а. Язэп абслугоўваў вернікаў раней або абслугоўвае цяпер.

Айцец Язэп Сыру браў прынагодны, але актыўны ўдзел у жыцьці нашай парафіі на працягу ўсіх 20 гадоў, а цяпер ужо трэйці год дзейнічае як наш настаяцель, хоць і не на поўны час. Незважаючы на гэта, ён улажыў шмат энэргіі для ажыўленьня беларускасьці нашай парафіі. Ён зацікаўлены ўсякімі беларускімі грамадзкімі, культурнымі ды рэлігійнымі пачынаньнямі, добра азнаёміўся зь беларускай гісторыяй і апрычоным характарам Беларусі.

З нагоды юбілею а. Язэпа Сыру прыйшло шмат прывітаньняў, у тым ліку й ад праф. Томаса Бэрда зь Нью-Ёрку ў прыгожай беларускай і ангельскай мовах.

Трэба пажадаць а. Язэпу Сыру, каб Усемагутны Бог дарыў яму сілы да вытрываласьці у ягонай спорнай працы для дабра нашага народу.

**Вір**

*З жыцьця ў Дэтройце*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

У панядзелак 19 чэрвеня, на другі дзень Сёмухі, парафія БАПЦ Сьвятога Духа ў Іст-Дэтройце адзначыла сваё гадавое сьвята. Урачыстая багаслужба адбылася ў украінскай праваслаўнай царкве Сьв. Андрэя. На багаслужбу прыйшлі ўсе парафіяне й прыхільнікі парафіі Сьв. Духа, шчыра маліліся за далейшы лёс парафіі ў ейным цяжкім мамэньце існаваньня. Вялікі хор пад кіраўніцтвам салісткі й дырыгенткі хору сп-ні Веры Артон сьпяваў вельмі прыгожа, даючы праўдзівае духовае задаваленьне прысутным на багаслужбе, якую адправіў а. прат. Міхась Страпко.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## СЬВЯТА ПАТРОНКІ Ў ГАЙЛЕНД-ПАРКУ

Парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку апошнія паўтара году пражыла ў супакоі, прыдбала свайго сталага сьвятара, царкоўнае жыцьцё ўнармалізавалася, узмоцніўся царкоўны хор, парафіяне добра наведваюць сваю царкву, прыбыло шмат новых прыхаджанаў, а. прат. Васіль Андрэюк з энтузіязмам і ўмеласьцяй узяўся за разбудову парафіі. Усё гэта было відавочна 4 чэрвеня сёлета, у дзень парафіяльнага сьвята, калі царква была перапоўненая вернікамі ды больш за сто асобаў засталося на абед пасьля службы. Нельга не адзначыць тут удзелу ў царкоўным жыцьці рэгента хору сп. Якуба Сапежынскага ды сп. Лявона Стагановіча, працы парафіяльнай рады зь ейным старшынём Алегам Дубягам, клапатлівага царкоўнага старасты сп. Янкі Літвіненкі ды старшыні сястрыцтва сп-ні Жэні Дубяга. Трэба таксама ўспомніць і выказаць падзяку тым, хто ў самым цяжкім пэрыядзе ў жыцьці парафіі, перамагаючы ўсе цяжкасьці, забясьпечылі яе духовай апекай — гэта а. архімандрыт Карп ды а. Аляксандар Чарнышоў з Рускай Праваслаўнай Царквы.



*Клір перад царквою пасьля багаслужбы.*

Гаворачы пра жыцьцё й дасягненьні парафіі, трэба ўспомніць і тое, што парафіяне моцна падтрымваюць дзейнасьць сп.сп. Пётры Кажуры й Лявона Стагановіча ў зборы ахвяраў на будову праваслаўных цэркваў на Беласточчыне, музэю ў Белавежы ды на іншыя мэты дапамогі братом і сёстрам.

Урачыстую багаслужбу ў дзень Патронкі правіў Архіепіскап Мікалай, у суслужэньні мітр. прат. а. Аляксандра Радэнковіча, пратаярэяў Міхася Страпка, настаяцеля парафіі БАПЦ у Кліўленьдзе, ды а. В. Андрэюка й дыякана Рысто Іваноўскага. Іпадыяканы Генадзь Дубяга й Сыцёпа Дубяга дапамагалі ў службе. Прыслужвалі Даніла Андрэюк і Адрыян Лук'янчык. Хорам кіраваў сп. Л. Стагановіч.

Вельмі сьвяточна адбылося рукапалажэньне а. дыякана Рысто Ўладыкам Мікалаем у сьвятары. Айцец Рысто будзе служыць у сэрбскай парафіі БАПЦ у штаце Агаё.

У сваёй пропаведзі Ўладыка Мікалай паясьніў, што зьяўленьне цудатворнага абраза Божай Маці на ігрушы ў Жыровічах у 1470 годзе было знакам Божай ласкі й апекі над беларускім народам. Мы сёньня дачакаліся, сказаў Уладыка, што пасьля дзесяцігодзьдзяў перасьледу наша Царква й вера аказаліся пераможнымі. Манастыр у Жыровічах быў адрамантаваны й там існуе духоўная сэмінарыя.

Застольную ўрачыстасьць вёў сп. Васіль Русак, сябра парафіяльнай рады. Ён прывітаў Уладыку Мікалая і ўсіх айцоў, пажадаў новапасьвячанаму а. Рысто ўдачаў у ягонай адказнай працы, прадставіў прысутных на абедзе старшыняў беларускіх арганізацыяў. Др. Янка Запруднік прачытаў вельмі цікавы рэфэрат на тэму палажэньня рэлігіі ў сучаснай Беларусі, а а. Аляксандар Радэнковіч расказаў аб сваіх плянах пераезду ў Флярыду ды заснаваньня там сэрбска-беларускай праваслаўнай місіі.

Падзякай сястрыцтву парафіі ды супольнай малітвай закончылася парафіяльнае сьвята.

**Р. Б.**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДОРАТЫ

Парафіяльнае сьвята ў царкве Сьв. Тройцы ў Дораты было адзначане 25 чэрвеня асабліва ўрачыста. Багаслужбу ачоліў Яго Высокадастойнасьць Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, у суслужэньні архімандрыта а. Карпа, настаяцеля парафіі, і а. прат. Васіля Андрэюка, настаяцеля парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку. Надзвычайна прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапежынскага.

На сьвята прыбылі мясцовыя парафіяне ды прыяцелі з ваколіцаў; таксама прыехалі вернікі БАПЦ зь Нью-Ёрку й Гайленд-Парку.

У прыемнай атмасфэры прайшоў супольны абед, што адбыўся ў густоўна прыбранай падцаркоўнай залі і быў падрыхтаваны мясцовым сястрыцтвам на чале з Таняй Марыноўскай і пры дапамозе сястрыцтва парафіі Жыровіцкай Божай Маці пад кіраўніцтвам Жэні Дубяга.

Сябра Кансысторыі БАПЦ сп. В. Русак адзначыў у сваім выступленьні заслугі архімандрыта а. Карпа, які 16 год таму заснаваў гэтую парафію. Бязьмежная ахвярнасьць а. Карпа ды вялікая ягоная вера дапамаглі ўтрымаць гэтую парафію, забясьпечыць ёй будучыню. Былі й вялікія страты: памёр адзін зь ейных заснаднікаў, першы старшыня парафіяльнае рады сьв. пам. Хведар Марыноўскі; былі іншыя цяжкія страты ў сям'і Тані Марыноўскай. Нельга ня ўспомніць таго факту, што а. Карп перад тым як заснавалася парафія ў Дораты, быў настаяцелем сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, куды ён праз тры гады кожную нядзелю й кожнае сьвята езьдзіў (за 125 міляў) служыць багаслужбы. Айцец Карп сваёй апекай і парадай дапамог у крытычным часе й парафіі Жыровіцкай Божай Маці, ка-

*(Працяг на 7-й б.)*

лі ня было сталага сьвятара. Сёньня парафія ў Дораты — важны місійны пункт: яна абслугоўвае нашых братоў і сёстраў Беларусаў, а таксама нашых прыяцеляў Украінцаў і Расейцаў. Магнікаў сьвята вітаў сп. Міхась Казьлякоўскі, адзін зь першых арганізатараў і старшыняў Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Сп. Казьлякоўскі жыве цяпер у паўдзённым Нью-



*Ідзе багаслужба ў царкве Сьв. Тройцы.*

чымасьці для ейнага існаваньня й росту цяпер вялікія, і мы будзем прасіць Усявышняга, каб Ён паслаў а. Карпу добрага здароўя ды меў яго ў Сваёй апецы.

Уладыку Мікалая, а. Карпа і ўдзельДжэрзы.

Па абедзе ўдзельнікі сьвята яшчэ доўга не разыходзіліся, карыстаючы з добрага надвор'я й прыемнае нагоды правесьці час у сардэчных гутарках.

**Р. Б.**

## ДАНІЛА І ВІНЦЭНТ МЕРЛЯКІ



*Др. Даніла Мерляк*



*Вінцэнт Мерляк*

Два браты, сыны Кастуся й Ганны Мерлякоў, Даніла й Вінцэнт, скончылі яшчэ па адным факультэце ды рыхтуюцца кожны ў кірунку да свае кар'еры.

**Даніла Мерляк,** які чатыры гады таму зрабіў дактарат у анатоміі (біялёгія клетак), у травені сёлета атрымаў дыплём доктара мэдыцыны ў псыхіятрыі. Др. Д. Мерляк будзе адбываць лекарскую практыку ў Карнэльскім мэдычным цэнтры ў гор. Нью-Ёрку і адначасна займацца навуковымі досьледамі.

**Вінцэнт Мерляк** у жніўні летась здабыў другі дыплём у Станфардзкім унівэрсытэце ў Палё-Альта ў Каліфорніі, дастаўшы ступень бакалаўра ў ангельскай мове. Пасьля атрыманьня дыплёму Вінцэнт увесь час прысьвячае заняткам у кінэматаграфіі, робіць старанны залічыцца ў Школу кінарэжысуры ў Лёс-Анджэлесе.

Жадаем удачаў кожнаму зь іх у сваёй прафэсіі і ў прыватным жыцьці.

**В. Ш.**

## СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ЗАМОРСКІ

Пасьля году хваробы й складанае апэрацыі (рак), адыйшоў у вечнасьць на 65-м годзе жыцьця 18 чэрвеня сёлета сьв. пам. Міколай Заморскі. Боль страты адчула ня толькі сям'я нябожчыка, ягоныя сваякі, але і ўсе суродзічы, якія ведалі яго. Мікалай Заморскі быў тым чалавекам, які выклікаў да сябе, у моц свае прыроджанае сьціпласьці й далікатнасьці, глыбокую сымпатыю й пашану. У ягонай спакойнай натуры таілася трывалкае пастаянства й глыбінная эмацыянальнасьць, прывязанасьць да радзімых вартасьцяў і ідэалаў. Ён быў заўсёды там, дзе ішла грамадзкая праца, дзе рабілася беларуская нацыянальная справа. Узгадаваны ў сьведамай і набожнай беларускай сям'і, ён з самае раньняе маладосьці трымаўся свае грамады, сваіх людзей, свае царквы, сваіх арганізацыяў. І заўсёды быў каля канкрэтных заданьняў, сумленна выконваў узятыя на сябе абавязкі.



Мікалай Заморскі быў таксама чалавекам вялікіх прадпрыймальніцкіх здольнасьцяў, дзякуючы якім меў добра пастаўленае сьлясарнае прадпрыёмства. Нябожчык шчодра падтрымваў розныя грамадзкія і дабрадзейныя ініцыятывы, у тым ліку й справу будаўніцтва Беларускага музэю ў Гайнаўцы й набыцьця друкарні для яго.

Паховіны адбыліся ў сераду 21 чэрвеня. У царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку была адслужаная Сьв. Літургія й паніхіда па нябожчыку. Як і на паніхідзе ў Мангасэце дзень перад тым, у царкве разам зь сям'ёй нябожчыка было шмат ягоных сяброў і знаёмых, што прыйшлі аддаць яму апошнюю пашану. Акт пахаваньня выканаў а. Васіль Андрэюк. Над магілаю і за памінальнымі сталамі ў падцаркоўнай залі падзяліліся ўспамінамі пра Колю Заморскага ды глыбокія спачуваньні выказалі жонцы Веры, дочкам Тані й Ніне, сястры Любе і ўсім родным: сп.сп. Уладзімер Русак, Пётра Кажура, Кастусь Мерляк, Янка Запруднік, Міхась Тулейка.

Вечная памяць добраму Чалавеку й шчыраму Беларусу Мікалаю Заморскаму.

**Я. З.**

***З жыцьця ў Канадзе***

## *ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА*

Першае паломніцтва да крыжа, пастаўленага летась у Мідляндзе ў Канадзе на адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, адбылося 24 чэрвеня сёлета. Стаяла цёплае сонечнае надвор'е. У вялікім прыгожым касьцеле прошчы Сьв. Мучанікаў была адслужаная сьв. Літургія Яна Залатавуснага. Адправілі яе а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, пабеларуску, і а. Язэп Сыру, настаяцель Царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага, паангельску. Стараньнем а. Язэпа ў заходняэўрапейскі стыль касьцёлу былі ўнесены сьвежыя рысы беларускай культуры: перад аўтаром, быццам іканастас, на пакрытых беларускімі ручнікамі падстаўках былі разьмешчаны чатыры іконы: сьв. Кірылы Тураўскага, Божай Маці й Ісуса Хрыста, ды ікона Еўфрасіньні Полацкай. Пасярэдзіне касьцёлу на аналоі — літаратура ў ангельскай мове: акафіст да Еўфрасіньні Полацкай, тэкст Літургіі ўсходняга абраду, ды лісты з малітвамі. А так як сярод паломнікаў, былі й не Беларусы, перад пачаткам багаслужбы а. Язэп Сыру коратка расказаў пра асаблівасьці усходняга абраду, ды форму й спосаб прыманьня Эўхарыстыі.

У часе багаслужбы абодвы сьвятары маліліся за супакой душы веч. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, старшыні камітэту пабудовы Беларускага Крыжа. У сваёй казані а. Аляксандар Надсон гаварыў пабеларуску аб значэньні крыжа й паломніцтва. Пасьля багаслужбы адбылася працэсія на ўзгорак да Беларускага Крыжа, упрыгожанага кветкамі, са сьцягамі паабапал — бел-чырвона-белым і канадыйскім. Ля Крыжа а. Аляксандар Надсон адправіў акафіст пачэснаму й жыцьцятворчаму Крыжу паводля «Малой Падарожнай Кніжкі» Франьцішка Скарыны (Вільня, 1522): «Радуйся, пачэсны Крыжу, крывёю Госпада нашага Ісуса Хрыста акроплены!». Малітвай «Магутны Божа» закончыліся багаслужбы — урачыстасьці паломніцтва.

У цені дрэваў адбыўся супольны полудзень, прыгатаваны арганізатарамі пад кіраўніцтвам сп-ні Бэрнардэты Мэрдок з Бэры.

Наступнае паломніцтва плянуецца да Беларускага Крыжана на 16 чэрвеня 1990 году.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## «БЕЛАРУСЫ ЗМАГАЮЦЦА ЗА ПРЫЗНАНЬНЕ»

Пад гэткім загалоўкам папулярная чыкагаўская газэта Harlem Irving Times (серада, 24 травеня 1989) зьмясьціла артыкул пра чатыры пакаленьні сям'і Жызьнеўскіх-Рамукоў-Талівэраў. Артыкул ілюстраваны прыгожай фатаграфіяй сп-ні Еўдакіі Жызьнеўскай, сп-ні Веры Рамук, сп-ні Ірэны Рамук-Талівэр і ейнае двухгадовае дачушкі Мэры (усе ў беларускай народнай вопратцы на фоне беларускіх экспанатаў у доме Рамукоў). У даўгім інтэрв'ю сп-ня В. Рамук расказала карэспандэнтцы Стэфані Гаўсман пра Беларусь, беларускую эміграцыю ў Амэрыцы ды дзейнасьць беларускае грамады ў Чыкага.

У нумары тае самае газэты за 12 ліпеня быў зьмешчаны ліст у рэдакцыю ад сп-ні В. Рамук, сакратара Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, у абарону амэрыканскага сьцягу, вакол якога вядуцца цяпер гарачыя спрэчкі ў сувязі з пастановаю Вярхоўнага Суда Амэрыкі, які сказаў, што паленьне сьцягу не становіць злачынства.

## ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА БАЗА ПАВЕДАМЛЯЕ:

23-ці Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбудзецца ў Нью-Ёрку ў суботу 2-га верасьня 1989 г. ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка. Пачатак а 1-й гадз. папаўдні.

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» № 34, 1989

Часапіс пачаў выходзіць у новым, напалавіну меншым фармаце. На 56 бачынах зьмешчаныя: леташняя праклямацыя Прэзыдэнтам Рэйганам Тыдня Паняволеных Народаў і сёлетні мэмарандум да губэрнатара штату Нью-Джэрзы ў справе незалежнасьці Беларусі (абодвы матар'ялы паангельску); атыкул — «1000 год хрысьціянства ў Беларусі»; прывітаньне ад Прэзыдэнта Дж. Буша (да сьвяткаваньня юбілею 1000-годзьдзя); перадрук з газэты «Літаратура і Мастацтва» «Курапаты — дарога сьмерці»; пераказ артыкулу Н. Гарбанеўскай з газэты «Русская Мысль» пра Курапаты; працяг раману Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя»; арт. М. Панёманскага «Кастусь Каліноўскі»; арт. М. Белямука «Што да гэрбу Пагоня»; арт. І. Касяка «Украінскія прэтэнсіі да Беларусі»; нататка «Шумім, братка, шумім...» (скарочаная прамова пісьменніка Ніла Гілевіча ўМаскве на пісьменьніцкім пленуме); аповесьць Янкі Золака «Ціхі стаў»; верш Ніла Гілевіча «Адкажы»; тры вершы Пятра Грыгальчыка; хроніка, бібліяграфія.

## «ЗА ГАДОЎ ПЯЦЬ ПАЛЕПШАЕ...»

Жанчыне 30 гадоў, мужу 35, прыехалі зь Менску ў Вўстралію да сваяка.

«У нас, — кажуць, — цяпер палепшала, маем вольнае слова. Масла й малака на рынку пабольшала. Дазволілі мець прыватныя лавачкі (крамы). Цана ў прыватных крамах даражэйшая, таму што ў дзяржаўных мала тавараў.

«Я працую таксістам, — кажа ён. — Аклад 170 рублёў у месяц. Працую 24 гадзіны, а пасьля маю тры дні вольныя. Дастаў дазвол на прыватную працу таксістам у вольныя дні, маю сваю таксу. Часамі магу зарабіць 50 рублёў у дзень — гэта мая дадатковая праца. За кватэру плачу 30 рублёў у месяц. На памешканьне трэба чакаць да пяцёх гадоў. Але калі падмажаш, дастанеш за год. Падмазка кругом модная.

«Калгасы кіруюцца самі, больш не даюць ім загадаў з вышэйшых інстанцыяў. Думаю, за гадоў пяць палепшае.

«Мова ў нас руская. Калі хто загаворыць пабеларуску, другія Беларусы кажуць: 'Калгасьнікі прыехалі'. Так што вельмі цяжка, каб гаварылі беларускаю моваю». **У. Акавіты**

## РЭКАМЭНДАЦЫЯ КНІЖКІ БРАТОЎ ЖЫЗЬНЕЎСКІХ

Уплывовая газэта Chicago Tribune (28.V.89) у кніжным аглядзе парэкамэндавала як крыніцу «вартаснае інфармацыі» кніжку братоў Валодзі й Юркі Жызьнеўскіх (сыны сп-тва Нікадэма й Ганны Жызьнеўскіх) для тых, хто зацікаўлены ў паходах па штаце Іліной. У кнізе апісваюцца самыя розныя маршруты й даецца карысная інфармацыя пра рыштунак, патрэбны ў дарозе, ды іншыя практычныя парады. Кніжка загалоўленая: **Illinois Hiking and Backpacking Trails** by Walter G. Zyznieuski and George Zyznieuski (Southern Illinois University Press, $ 12.95).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Л. Галубовіч-Заморская (у памяць М. Заморскага) | ам.д. 100 |
| Ф. і В. Бартуль (заміж кветак на магілу с.п. М. Заморскага) | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Я. Ж. | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Васіль Ковель | 50 |
| С. Махахей (праз А. Стрэчаня) | 45 |
| В. Богдан | 30 |
| В. Рамук | 25 |
| П. Даўмен (праз А. Стрэчаня) | 25 |
| М. Белямук | 25 |
| К. і М. Верабей | 25 |
| П. К. | 23 |
| П. Зыбайла | 20 |
| П. Пікулік | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| Д. Ясько | 20 |
| Е. Федарэнка | 20 |
| М. Клімюк | 20 |
| М. К. | 5 |
| Усяго | 773 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| В. Русак | 50 |
| Сэктар рады БНР ў Н.-Дж. | 50 |
| У. Шульжыцкі | 40 |
| М. Русак | 40 |
| Ю. Станкевіч | 30 |
| А. Протас | 25 |
| У. Пелеса | 25 |
| Я. А. за А. М. | 20 |
| Ю. Стагановіч | 20 |
| Р. Галяк | 20 |
| Б. Букатка | 20 |
| А. Махнюк | 20 |
| А. Стукаліч | 20 |
| К. Ворт | 20 |
| М. Касьцюк | 20 |
| Г. Дубяга | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| К. Міpановіч | 20 |
| А. Занковіч | 20 |
| А. Якімовіч | 20 |
| М. Сіцько | 20 |
| М. Кунцэвіч | 20 |
| М. Бахар | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| Я. Літвіненка | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| Усяго | 640 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Парафія Сьв. Кірылы Тураўск. | ам.д. 415 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 100 |
| К. Акула | 95 |
| Я. Скурат | 20 |
| Усяго | 630 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| Л. Клыбік | бэльг. фр. 1000 |
| А. Арэшка | 600 |
| Р. Занькоўскі | 600 |
| Я. Ж. | 500 |
| П. Барысік | 400 |
| З. Смаршчок (заміж кветак на магілу с.п. Жук-Грышкевіча) | 1000 |
| Усяго | 4100 |
| | ам.д. 101 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Дж. Дынглі | ф. 20 |
| Я. Д. | 20 |
| П. Асіповіч | 15 |
| Ю. Весялкоўскі | 15 |
| М. Дзейко | 15 |
| А. Зданковіч | 15 |
| А. Якубовіч | 15 |
| А. Лашук | 15 |
| М. Залога | 15 |
| А. Ражанец | 15 |
| Я. Саўковіч | 15 |
| М. Сенька | 15 |
| В. Тур | 15 |
| Я. Міхалюк | 15 |
| Усяго | 220 |

Усім прадстаўніком, ахвярдаўцам і падпішчыкам шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларус»**

***НІКОЛІ ЯШЧЭ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ ДРУК НЯ ВЫКОНВАЎ ГЭТКАЕ ВАЖНАЕ РОЛІ, ЯК СЁНЬНЯ. ПАДТРЫМВАЙЦЕ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»!***

## НА ЛЕЦІШЧЫ БЭЛЕР-МЕНСКУ

**25-я спартовая сустрэча беларуска-амэрыканскай моладзі адбудзецца ў сыботу 5-га жніўня** (адчыненьне а 10-й гадз. ўраньні). Увечары — баль, выбары Міс Спорт і ўручэньне ўзнагародаў. Грае аркестра Гэнрыка Вячоркі.

**Вечарына** ў сыботу 12-га жніўня.

**Фэст. Сьвяткаваньне Дня Смаленскае іконы Божае Маці ўнядзелю 13-га жніўня.** Ураньні багаслужба (10-я гадз.) ды паніхіда па сьв. пам. а. пратапр. Мікалаю Лапіцкім і па ўсіх памерлых беларускіх працаўніках. Па багаслужбе — міжпарафіяльны пікнік.

**Вікэнд Сьвята Працы (Лэйбор Дэй)**

**Сыбота 2-га верасьня:** вечарына (аркестра Івана Альхоўскага).

**Нядзеля:** папаўдні агульны пікнік.

**Панядзелак:** заканчэньне летняга сэзону.

**У сыботу 16-га верасьня** — апошняя імпрэза сэзону: супольны абед, вечарына.

**У сыботу 21-га кастрычніка** — традыцыйны абед і танцы на карысьць Бэлер-Менску.

Дырэктар лецішча — сп. Язэп Крывенка. Тэлефон: (914) 856-8532 (тэлефанаваць ураньні ад 10-й да 12-й і ўвечары ад 6-й да 8-й).

### АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦТВА БІНіМ

| | |
|---|---|
| Адзьдзел БАЗА ў Кліўленьдзе (зьбіраў сп. А. Стрэчань) | ам.д. 1000 |
| др. У. Набагез у памяць В. Жук-Грышкевіча | 100 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Др. Б. Грабінскі у памяць В. Жук-Грышкевіча | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| М. Раецкі (Аўстралія) | 76 |
| Разам | 1291.00 |

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*(Працяг; пачатак у № 359)*

## САЦЫЯЛЬНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

1. БНФ «Адраджэньне» імкнецца рэальна ажыцьцявіць неад'емнае права чалавека на годнае, сацыяльна стабільнае, матар'яльнае забесьпячанае жыцьцё, на поўнае раскрыцьцё ягоных працоўных, інтэлектуальна-духовых творчых здольнасьцяў у свабодна абранай сфэры дзейнасьці.

2. БНФ лічыць, што ўзровень жыцьця чалавека павінен залежаць не ад ягонай партыйнасьці, пасады, званьня, дыплёму, месца жыхарства, а толькі ад ягонага асабістага ўкладу ў стварэньне матар'яльных і духовых каштоўнасьцяў. Грамадзкія фонды забесьпячэньня павінны разьмяркоўвацца ў залежнасьці ад рэальных патрэбаў чалавека з улікам якасьці і колькасьці ягонай працы. БНФ адкідае ўсякія формы сацыяльнай дыскрымінацыі па палітычных, рэлігійных, прафэсійных ці іншых прыкметах.

3. Усталяваньню сацыяльнай справядлівасьці павінны спрыяць:

— сувэрэнітэт Рэспублікі ў вырашэньні сацыяльных пытаньняў;

— падвышэньне ўзроўню жыцьця працоўных Рэспублікі, да якога можа прывесьці толькі радыкальная і комплексная эканамічная рэформа;

— поўная адмена намэнклятурных прынцыпаў прызначэньня на партыйныя, дзяржаўныя, ведамасныя пасады і зьвязаных з гэтымі пасадамі сацыяльных прывілеяў: спэцмагазынаў, спэцпаліклінікаў, спэцсанаторыяў і г.д., іх перадача ў агульнанароднае карыстаньне; прызнаньне грамадзкай і палітычнай раўназначнасьці ўсіх сацыяльных і прафэсійных групаў насельніцтва;

— ліквідацыя сацыяльна-культурнай няроўнасьці вёскі і гораду, сталіцы і пэрыфэрыі, адмена іерархічнай сыстэмы іх забесьпячэньня прадуктамі харчаваньня, таварамі шырокага попыту, мэдыцынскай, культурнай і бытавой абслугай;

— прадуманае, навукова абгрунтаванае разьмяшчэньне прадукцыйных сілаў на тэрыторыі Рэспублікі, недапушчэньне ўтварэньня мэгаполісаў (гарадоў-гігантаў), скапленьне прамысловых прадпрыемстваў, раўнамернае разьвіцьцё ўсіх рэгіёнаў і поўныя сацыяльна-культурныя магчымасьці для іхных жыхароў; упарадкаваньне іміграцыі ў Рэспубліку;

— усталяваньне гарантаванага пражытковага мінімуму для грамадзянаў Рэспублікі, яго рэгулярнае падвышэньне з улікам інфляцыі;

— падвышэньне (за кошт пераразьмеркаваньня прыбыткаў) узроўню жыцьця тых, хто ў выніку інфляцыі і перакосаў у аплаце працы апынуўся за «мяжой беднасьці»;

— стварэньне сыстэмы кампэнсаваньня заработнай платы, пэнсіяў, стыпэндыяў і іншых выплатаў у сувязі з падвышэньнем цэнаў.

4. БНФ выказвае занепакоенасьць ростам дэфіцыту на прадукты харчаваньня і спажывецкія тавары ў Рэспубліцы і патрабуе:

— дакладнага высьвятленьня прычынаў дэфіцыту і абнародаваньня іх;

— рашучых захадаў для гарантаванага забесьпячэньня жыхароў Рэспублікі дэфіцытнымі таварамі, якія выраблюцца ў БССР, недапушчэньня іх неабмежаванага вывазу за межы Рэспублікі.

5. БНФ катэгарычна пярэчыць спробам бюракратыі перакласьці сваю віну за крызіс на плечы народу шляхам падвышэньня цэнаў пад выглядам іх «рэформы».

6. БНФ лічыць, што інтарэсы спажыўца павінны быць вышэйшыя за інтарэсы вытворцы. Для гэтага неабходна:

— рэгулярна інфармаваць насельніцтва БССР пра тое, колькі выраблена тавараў народнага спажываньня і колькі іх паступіла ў рэспубліканскі гандаль, пра якасьць вырабаў;

— устанавіць крымінальную адказнасьць за продаж прадуктаў, якія ўтрымліваюць небясьпечныя для здароўя рэчывы, а таксама дэфэктных прамысловых вырабаў; у ацэнцы якасьці тавараў карыстацца сусьветнымі стандартамі.

БНФ будзе спрыяць стварэньню незалежнага Беларускага таварыства спажыўцоў, якое будзе рэальна кантраляваць якасьць, экалягічную чысьціню, колькасьць прадуктаў і спажывецкіх тавараў, што паступаюць у гандлёвую сетку, выяўляць вінаватых у выпуску недабраякасных тавараў, у стварэньні дэфіцыту. Таварыства будзе кантраляваць цэны на тавары шляхам параўнальнага аналізу аднатыпных вырабаў, выдаваць свой друкаваны орган.

7. БНФ выступае:

— за адмену дыскрымінацыйнага па сваёй сутнасьці заніжэньня аплаты некаторых прафэсійных групаў насельніцтва: прадстаўнікоў культурна-асьветнай сыстэмы, настаўнікаў і выкладчыкаў, малодшага мэдыцынскага пэрсаналу, інжынерна-тэхнічных работнікаў, творчай інтэлігенцыі і інш.;

— за адмену неабгрунтаванага пэрыядычнага заніжэньня расцэнак за поўны аб'ём выкананых работаў на дзяржаўных прадпрыемствах;

— за тэрміновае грамадзкае абмеркаваньне праекту Закону аб пэнсійным забесьпячэньні; за падвышэньне несправядліва нізкага ўзроўню пэнсійнага забесьпячэньня адносна сярэдняй заработнай платы; за непасрэдны кантроль грамадзкасьці над прызначэньнем пэрсанальных пэнсіяў;

— за павялічэньне мінімальных чарговых адпачынкаў да 24-х рабочых дзён для ўсіх працоўных, а таксама вайсковых тэрміновае службы;

— за гарантаваны 40-гадзінны пяцідзённы рабочы тыдзень для ўсіх працоўных.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Ад выдавецтва «Беларус»**

*Матар'ялы да праекту Праграмы БНФ «Адраджэньне» і Статут БНФ па надрукаваньні іх у «Беларусе» будуць выданыя асобнай брашурай для належнага пашырэньня. Самвыдавецтва цяпер у БССР забаронена законам. Матар'ялы да праекту Праграмы патрэбныя для як мага шырэйшага іх абмеркаваньня грамадзтвам.*

*Прысылайце замоўленьні на брашуру. Цана: 1 дал.*